*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ISSN – 5172

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў**

ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. *Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.. M4K 1C2*

*U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd. Highland Park, N.J. 08904*

Год 12 Сакавік, 1986 № 1 (41)

## "МІНСК І ПІНСК"

У папярэднім нумары, у артыкуле "Сіла антыбеларускага рэфлексу", мы разглядалі тую вялікую хлусьню, якую панявольнікі беларускага народу – Масква й Варшава – у мінулым прашмуглявалі ў сваю й сусьветную гісторыю ды якую аграмадную шкоду гэтая маскоўска-варшаўская "праўда" прыносіць нам, якія змагаюцца за вызваленьне беларускага народу спад маскоўскага ярма. Справа ў тым, што гэная маскоўска-варшаўская вэрсія нашай гісторыі ўкаранілася рэфлексам у людзей так ці накш маючых дачыненьне да Беларусі.

Гэты рэфлекс бытуе і ў Амэрыканцаў, у краіне параўнальна поўнай свабоды, дзе, здавалася-б , ад паважных гісторыкаў і людзей з "мас мідыя" трэба было-б спадзявацца умяркаванай аб'ектыўнасьці.

Як быццам нам на помач, гэтта-ж зьявіўся і клясычны прыклад такога шкоднага рэфлексу із самай вярхушкі таго-ж "мідыя" – сусьветна ведамага й шмат дзе паважанага часапісу "Тайм".

Справа ў тым, што летась на жэнеўскую сустрэчу Рэгана з Гарбачовым, апроч дзьвюх галоўных асобаў, зьявіліся цэлыя батальёны "вушэй і вачэй" усяго сьвету – прэсы, радыя й тэлевізіі. Туды-ж пасьпяшылі, зь вялікім энтузіязмам, і такія цацы амэрыканскага палітычна-грамадзкага сьвету, як ведамая амэрыканская крыклівая фэміністка (хацелася-б сказаць – карыкатура прызваітых фэміністак і жанчын) Бэла Абцуг дый нявыбраны кандыдат у кандыдаты на прэзыдэнта ЗША ад Дэмакратычнай Партыі ў прошлых выбарах ведамы й гарлапаністы чорны сьвятар Джэсі Джэксан.

З Масквы бальшавікі прыцягнулі з сабой няйцяжэйшыя прапагандовыя гарматы, дый не маглі-ж яны ня выкарыстаць такой залатой нагоды. Адбылася "спантанічная"сустрэча новасьпечанага генэральнага сакратара "роднай партыі" Гарбачова із нашумелым амэрыканскім палітычным гарлапанам. Джэсі Джэксан, на вачох усяго сьвету заявіў, што ён і міліёны міралюбных Амэрыканцаў вядуць апазыцыю да шкоднай палітыкі Рэгана і горача вітаюць ды падтрымліваюць "мірную" палітыку разззбраеньня, за якую змагаецца Масква, як авангард усіх міралюбных людзей на цэлым сьвеце. Апазыцыі з савецкага боку супраць Гарбачова ня было, бо на касьцях міліёнаў апазыцыянераў пабудаваны ў Сібіры розныя Нарыльскі й іншыя БАМы, а й цяпер так званыя дысыдэнты "адпачываюць" у Гулагу.

У часапісе "Тайм" за 2-га сьнежня, штабны карэспандэнт і камэнтатар Гю Сайды, камэнтуючы жэнеўскую сустрэчу, сказаў і такое: "выступленьне Джэсі Джэксана магло мець вялікі посьпех (hit) у Мінску..."

Чаму ў Менску, а ня ў Ленінградзе ці ў нейкім Кіраве або Дзяржынску? Ці Менск важнейшы ад Масквы, Кіева, ці больш савецкі за Ленінград? У чым тут справа?

Давялося паблудзіць у лябірынтах памяці пра мінулае. Прыгадаліся некаторыя амэрыканскія фільмы, што паказалі як тварыўся некалі з эмігрантаў цяперашні вялікі амэрыканскі народ, паўсталі ў вачох памяці і "нашыя" якіх некалі маса, уцякаючы ад розных царскіх пагромаў, прыплыла да гэтых берагоў.

У сплаве шматлікіх "этнікаў" некалі бытавалі навет на публічных сцэнах, у тэатрах і меншай, сьціпла гаворачы, гумарыстычнай літаратуры, розныя так званыя этнічныя жарты. Асабліва ў часы пабудаванага на кпінах барлеска бытаваў тут жарт пра "Мінск і Пінск". Для вуха амэрыканскага слухача тут, відаць, падобная экзотыка як нейкае Тау-Таву ці Мау-Маву. Коратка гаворачы, "Мінск і Пінск", галоўна дзякуючы "нашым", абжыўся ў амэрыканскім гумары.

Ёсьць асновы мяркаваць, што гэтая "экзотыка" загнязьдзілася і ў памяці аднаго Гю Сайды, а гэтта, у ходзе камэнтараў пра падзеі ў Жэневе, вылезла, як шыла зь мяшка. Падазраваць можна, што карэспандэнт "Тайм" дзеяў той сілай рэфлексу, як некалі НАТО-генэрал Хакет, які, апісваючы ўяўную трэцюю сусьветную вайну, пусьціў першую атамную ракету на Менск. Прачытаўшы Гю Сайды, амэрыканскі й замежны чытач падумае, што Менск – гэта тыповы савецкі горад, у якім Джэсі Джэксана, за ягоную акцыю супраць Рэгана ў Жэневе, запраўды на вуліцах на руках насілі-б. Адкуль-жа яму праўду ведаць?

Мой ліст да рэдактара "Тайм" і адказ на яго рэпрадукуем у арыгінале, а для тых, што пангельску не разумеюць, пераказваем іх зьмест:

Time Magazine, Editor,
Rockefeller Plaza, New York

1.12.85

Dear Editor:

Why, as you suggest, tongue-in-cheek, would Jesse Jackson's sly antics to meet Gorbachev in Geneva would be a hit in Minsk?

Minsk is a capital of Byelorussia, whose people who proclaimed their independence of Moscow on March 25, 1918, harbor no less resentment to their colonial Moscow masters than Poles or Ukrainians. Millions of Byelorussian victims under Soviet oppression amount to a different "hit".

Yours truly
K. Akula

57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2

TIME
THE WEEKLY NEWSMAGAZINE

TIME & LIFE BUILDING
ROCKEFELLER CENTER
NEW YORK 10020

ISABEL KOURI
EDITORIAL OFFICES

December 23, 1985

Dear Mr. Akula:

It is hard to say how or when Minsk came to be viewed as a typically Soviet city. Perhaps some light-hearted popular songs (one by Tom Lehrer) had something to do with it. But this does not imply acceptance of the political arrangements in the Soviet Union whereby various nationalities (including the Byelorussians) remain frustrated in their efforts to obtain autonomy or independence. We regret very much that the reference in Hugh Sidey's column of December 2, which you properly characterized as tongue-in-cheek, gave offense. Thank you for writing to us about it. We value your interest.

Sincerely,

Isabel Kouri

Mr. K. Akula
57 Riverdale Avenue
Toronto, Ontario
Canada M4K 1C2
IK:sb

"Часапіс "Тайм", Рэдактару.

Чаму, як Вы насьмешліва выражаецеся, хітрыя выбрыкі Джэсі Джэксана, каб сустрэць Гарбачова ў Жэневе, мелі-бы быць вялікім посьпехам (hit) у Менску?

Менск ёсьць сталіцай Беларусі, народ якой, каторы абвесьціў незалежнасьць ад Масквы 25.3.1918 г., тоіць у сябе да маскоўскіх каляніяльных гаспадароў ня менш варожасьці чымся Палякі або Украінцы. Міліёны Беларусаў, ахвяраў савецкага ямра, прадстаўляюць сабой зусім іншы (hit) вялікі посьпех"

*А вось адказ:*

"Дарагі Містар Акула:

Цяжка сказаць дзе й калі пачалі разглядаць Мінск як тыповы савецкі горад. Магчыма некаторыя лёгкія папулярныя песьні (адна Тома Лерэра) да гэтага спрычыніліся. Але гэта ня трэба разумець як апрабацыю ладу палітычнага ў Савецкім Саюзе, у якім розныя нацыянальнасьці (уключна зь Беларусамі) ёсьць бездапаможнымі ў сваіх намаганьнях, каб здабыць аўтаномію або незалежнасьць. Мы вельмі шкадуем, што згадка ў рубрыцы Гю Сайды за 2-га сьнежня, якую Вы слушна ахарактарызавалі насьмешлівай, зрабіла крыўду. Дзякуем, што напісалі пра яе. Мы цэнім Вашае зацікаўленьне.

Ваша, *Ізабэл Куры."*

Ня будзьма наіўнымі. Пасьля Акулавага лісту ў часапіс "Тайм", там ня было прысьвечанага пытаньню Беларусі паседжаньня рэдкалегіі і не паўсталі інструкцыі, якія забавязалі-б карэспандэнтаў часапісу вывучыць гісторыю Беларусі, дый не маскоўскую ці варшаўскую вэрсію яе. Ізабэл Куры адказала Акулу, недзе палажыла ліст у папку, а Гю Сайды, катораму, можна мяркаваць, таго Акулавага лісту й прачытаць не далі, у іншым часе й пры адпаведнай нагодзе ізноў із тым "Мінскам" як той прыказачны "Піліп з канапель" вылезе.

Гэты выпадак ілюструем гэтта для нашых чытачоў, каб маглі на свае вочы пабачыць як нагласьць антыбеларускага рэфлексу, ужо ў іншым апрычоным варыянце, вылезла на бачыну сусьветна ведамага й чытанага часапісу. Выснаў з таго ясны. На гэта мусім своечасова рэагаваць і калі магчыма, "падцерці носа" нашым яўным ці нясьведамым ворагам.

*К. Акула*

****************************************************

*ВІНШУЕМ*

нашага выдатнага й нястомнага ў нацыянальнай і грамадзкай працы суродзіча

МІКОЛУ СКАБЕЯ

з нагоды 80-ці гадоў жыцьця.

Спадзяемся, юбілянт нам выбачыць, што віншуем крыху пазнавата (ня з нашай віны).

Жадаем Яму добрага здароўя і яшчэ шмат гадоў жыцьця.

*Многая лета!*

*"Зважай".*

Язэп Барэйка

# ГІСТАРЫЧНА-БАТАЛЬНЫ ЖАНР У БЕЛАРУСКІМ ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ XIX СТАГОДЗЬДЗЯ

Перад тым, як перайсьці да галоўнае тэмы, неабходна крыху спыніцца на пытаньні гістарычнага жанру ў Беларусі мінулага стагодзьдзя наагул. Як ведама, гістарычны жанр – гэта жанр выяўленчага мастацтва, прысьвечаны гістарычным падзеям. Ён уключае гістарычны партрэт і гістарычны пэйзаж. Асобным разьдзелам гістарычнага жанру ёсьць жанр батальны, або ваенны, прысьвечаны падзеям вайны – бітвы, сцэны з жыцьця й быту войска.

"Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" ў артыкуле пра гістарычны жанр, зьмешчаным у 3-м томе, сьцьвярджае, што "На Беларусі да Кастрычніцкай рэвалюцыі гістарычны жанр амаль не разьвіваўся (выключэньне – гістарычныя кампазыцыі Міхала Андрыёлі і Яна Дамеля)".

Гаворачы-ж пра батальны жанр, Энцыкляпэдыя не падае ніводнага прыкладу мастацкага твору гэтага жанру ў Беларусі XIX ст., як-бы ён да рэвалюцыйных падзеяў 1917 году ў нас наагул ня існаваў. З артыкулу БелСЭ вынікае, што гістарычны жанр і ягоны разьдзел, батальны жанр, пачалі разьвівацца ў Беларусі толькі пасьля кастрычніцкага перавароту, дзесьці ў другой палове 20-х гадоў і што ягонымі пачынальнікамі былі мастакі жывапісцы Эндэ і Волкаў ды графік Юдовін.



М. Кулеша. Гусары.

Зразумела, цьверджаньне такое ня толькі памылковае, але й беспадстаўнае. Як выглядае, аўтары артыкулаў А. Каплун, І. Паньшына і Э. Арава застаюцца ў палоне памылковых поглядаў на гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва, асабліва мінулага стагодзьдзя, паводле якіх быццам-бы да XX ст. беларускі народ ня меў свайго нацыянальнага мастацтва.

У запраўднасьці-ж было зусім накш. Беларусь спрадвеку была вельмі багатая сваімі таленавітымі мастакамі: жывапісцамі, скульптарамі, разьбярамі, якія славіліся ня толькі ў сябе на бацькаўшчыне, у Беларусі, але й далёка за яе межамі. Усяму сьвету вядомы дзеяч беларускай культуры др. Францішак Скарына, 500-годзьдзе з дня нараджэньня якога Беларусы на Захадзе адзначылі летась, а ў БССР яно будзе адзначацца чамусьці толькі ў 1990 годзе.

У 17 ст. славіліся сваім майстэрствам беларускія гравёры Максім і Васіль Вашчанкі, якія працавалі ў Магілёве ў друкарні Богаяўленскага брацтва. Многія беларускія майстры працавалі ў Маскоўшчыне. "Для цэркваў Масквы, Ноўгараду і іншых буйных гарадоў Рускай дзяржавы – піша Лаўрэн Абэцэдарскі ў сваей працы "Белорусы в Москве 17 ст.", – беларускія майстры Палаты разных і сталяварных справаў выконвалі разныя саркафагі (ракі), расьпяцьці, рабілі іканастасы". Некаторыя з гэтых работаў, захаваўшыся да нашых дзён, уяўляюць сабой выдатныя творы мастацтва, якія набылі сусьветную вядомасьць.

У 17 стагодзьдзі жыў і тварыў таксама выдатны беларускі майстар разьбы Гіпаліт. Разам із сваімі трыма сябрамі – Яфімкай Анціпавым, Ларыёнам Юр'евым і Данілам Грыгор'евым – ён рабіў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля.

З асяродзьдзя беларускага народу выйшлі вядомыя мастакі Ян Дамель, Рафал Сьлізень; жанрысты Казімер Альхімовіч, Казімер Стаброўскі і Юльян Карчэўскі; баталіст Януары Сухадольскі; пэйзажыст Вінцэнт Дмахоўскі; мазаіст Нікадзім Сілівановіч, мастакі Язэп Аляшкевіч, Валентын Ванькевіч, Іван Хруцкі, Апалінар Гараўскі, Ціт Бычкоўскі і іншыя.

Як бачым, беларускае мастацтва, у гэтым выпадку беларускае выяўленчае мастацтва мае сваю гісторыю, да гэтага вельмі багатую. Справа толькі ў тым, што гісторыя гэтая да нядаўнага часу ня была напісаная нашымі мастацтваведамі, што й служыла прычынай усялякіх нябыліцаў аб нібыта нядаўнім узьнікненьні беларускага нацыянальнага мастацтва.

Гэтае слабое вывучэньне гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва, традыцыяў яго, ня толькі прыводзіла да цьверджаньняў, якія знаходзім ува ўнівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" адносна гістарычнага жанру ў беларускім мастацтве, але й пераш-

каджала ў творчай працы сучасным беларускім мастаком і нашаму выяўленчаму мастацтву наагул. Ня ведаючы гісторыі мастацтва Беларусі і ягоных традыцыяў, беларускія мастакі не маглі плённа працягваць і разьвіваць іх у сваей творчасьці.

Да такога стану рэчаў спрычыніўся той факт, што часта пад выглядам "навукі аб мастацтве" хвальшаваліся й перакручваліся рэальныя факты гістарычнага мінулага беларускага народу й зьвязанай зь ім спадчыны ў галіне мастацтва й культуры, што, у сваю чаргу, спрыяла нараджэньню ў ліку іншых язваў яшчэ і няўпэўненасьці ў сваіх сілах, недаверу мастакоў да самых сябе – усяго таго, што мы цяпер называем комплексам няпоўнацэннасьці.

Гэтак, напрыклад, у пачатку 30-х гадоў, калі наступ Масквы супраць беларускае нацыянальнае культуры быў у поўным разгары, сябра Рэвалюцыйнай Арганізацыі Мастакоў Беларусі жывапісец Касьцялянскі, у сваей працы "Выяўленчае Мастацтва БССР" (кніга была выдадзеная ў Маскве ў 1932 г.) пісаў, што "Да рэвалюцыі ў Беларусі было арганізавана 2-3 выпадковыя мастацкія выстаўкі, на якіх дамінуючымі працамі былі паўалегарычныя 'краявіды' й партрэты розных ксяндзоў і магнатаў. Гэтыя выстаўкі ў мастацкіх адносінах – сьцьвярджаў афіцыйны мастак – стаялі надзвычай нізка й дагаджвалі густам толькі памешчыцкіх і буржуазна-мяшчанскіх клясаў".

Як слушна адзначае Л. Дробаў у сваей працы "Жывапіс Беларусі ў 19 – пачатку 20 ст.", выдадзенай у Маскве ў 1974 г., вывучэньне творчасьці мастакоў Беларусі гэтага пэрыяду ў значнай меры тармазіла і скоўвала якраз гэтая "вульгарна-сацыялягічная" тэорыя, паводля якой шматлікія прадстаўнікі мастацтва – выхадцы із шляхоцкай клясы – абвяшчаліся прадстаўнікамі рэакцыйнай буржуазнай культуры. Іхная творчая спадчына, як правіла, ня вывучалася.

У адносінах да 19 ст., многія зьявы культурнага жыцьця гэтага пэрыяду трактаваліся часта няправільна, у адрыве ад тых канкрэтна-гістарычных умоваў, у якіх разьвівалася мастацтва Беларусаў і іншых суседніх народаў, у прыватнасьці, нярэдка няправільна разумелася і разумеецца значэньне гораду Вільні для разьвіцьця летувіскай, польскай і беларускай культуры.

Ня гледзячы на вялізарную ролю, якую Вільня адыграла ў разьвіцьці беларускай культуры 19 ст., у працы некаторых летувіскіх і польскіх мастацтвазнаўцаў амаль усе зьявы культурнага жыцьця, у тым ліку й дзейнасьць мастакоў, зьвязаных зь Вільняй, трактуецца толькі як дасягненьні нацыянальнай летувіскай або польскай культуры і амаль нічога не гаворыцца аб значэньні Вільні для разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры.

Другой істотнай прычынай, паводля якой шматлікія беларускія мастакі заліча́ліся ў актыў толькі польскага, летувіскага ці расейскага мастацтва, ёсьць няправільнае вызначэньне іхнай нацыянальнай прыналежнасьці. Для некаторых аўтараў асноўным крытэрыем такога вызначэньня служыць веравызнаньне. Такім чынам усе Беларусы каталіцкага веравызнаньня заліча́ліся да Палякаў або Летувісаў, а праваслаўныя – да Расейцаў.

І, урэшце, трэцім фактарам, што абумовіў няправільную трактоўку пытаньня, было памылковае ўжываньне тэрміну "Літва" ў значэньні "Беларусь". У 19 ст. гэты тэрмін быў пашыраны на тэрыторыі г. зв. "Паўночна-Заходняга Краю". Многія беларускія мастакі, не жадаючы быць залічанымі да польскай ці расейскай нацыянальнай культуры, называлі сябе "Ліцьвінамі". Як слушна кажа Л. Дробаў: "Для некаторых гісторыкаў мастацтва гэта было дастатковым, каб залічыць іх да літоўскай (г. зн. летувіскай – Я. Б.) нацыянальнай культуры. Аднак памылковасьць такога пункту гледжаньня відавочная. Называючы сябе "Ліцьвінамі", гэтыя дзеячы культуры ўкладалі ў паняцьце "Ліцьвін" ня этнаграфічны, а гістарычны сэнс, мелі на ўвазе, што яны жывуць на тэрыторыі некалі магутнага Вялікага Княства Літоўскага, у якое ў свой час уваходзіла ўся Беларусь".

Вось-жа гэтыя фактары й тое, што некаторыя аўтары мастацтвазнаўцы недастаткова ведаюць жыцьцё й быт беларускага народу, ня ведаюць ягонае гісторыі, і прыводзіць да цьверджаньняў, падобных да тых, што сустракаем у БелСЭ й паводля якіх у Беларусі да 1917 году гістарычны жанр "амаль не разьвіваўся" за выключэньнем Андрыёлі і Дамеля, а жанр батальны нібыта



Я. Дамель
Вызваленьне Т. Касьцюшкі зь цямніцы

наагул не існаваў. Як мы ўжо адзначылі раней, цьверджаньне гэтае ня толькі не абгрунтаванае, але яно й шкоднае, бо спрычыняецца да абядненьня культурнае спадчыны беларускага народу.

Апошнім часам і дзякуючы карпатлівым навуковым дасьледваньням беларускіх мастацтваведаў стала вядома, што ў гістарычным жанры беларускага выяўленчага мастацтва 19 ст. былі ня толькі А. Андрыёлі і Я. Дамель, але былі таксама баталіст Януары Сухадольскі, гістарычныя жывапісцы М. Кулеша, Я. Траяноўскі, К. Бароўскі, В. Дмахоўскі, Я. Манюшка, Т. Дмахоўскі, К. Альхімовіч і шмат іншых. Пачнем-жа ў храналягічным парадку ад Яна Дамеля.



Ян Дамель
Аўтапартрэт

Дамель ня быў Беларусам з паходжаньня. Радзіўся ён у 1780 годзе ў Мітаве, што ў Прыбалтыцы, у сям'і палкоўніка саксонскіх войскаў Хрыстафора Дамеля, але большую часьць свайго жыцьця правёў ён у Менску. Першапачатковую адукацыю будучы мастак здабыў у той-жа Мітаве. Потым вучыўся ў Віленскім універсытэце на катэдры жывапісу, спачатку ў Францішка Смуглевіча, а пасьля ягонае сьмерці ў 1807 г. у выдатнага пэдагога й жывапісца Яна Рустэмы.

Атрымаўшы ступень магістра прыгожых мастацтваў, Ян Дамель некаторы час быў ад'юнктам на катэдры жывапісу Віленскай Школы прыгожых мастацтваў. Але ў 1820 г. яго абвінавачваюць у падробцы банкнотаў і высылаюць на два гады ў Сібір. "Падставай для такога абвінавачаньня, – адзначае Леанід Дробаў у сваей працы "Беларускія мастакі 19 стагодзьдзя" (праца гэтая была выдадзеная ў 1971 г.) было пісьмо Дамеля да хвальшываманэтчыка Гезіка, знойдзенае ў таго ў час вобыску. Фактычнай-жа прычынай высылкі мастака, як высьветлілася потым, быў яго ўдзел у адной з тайных масонскіх арганізацыяў. Гэтыя арганізацыі ў пэрыяд насьляваньня рэвалюцыйнага ўздыму 20-х гадоў 19 ст. – кажа ён, – ігралі досыць актыўную ролю ў Паўночна-Заходнім краі".

У ссылцы Ян Дамель нястомна працаваў. Ён зрабіў росьпісы эвангеліцкага касьцёла ў Табольску, упрыгожыў фрэскамі касьцёл Бэрнардынаў у Томску, напісаў многа партрэтаў мясцовых чыноўнікаў і іншых асобаў. Шмат увагі мастак аддаваў пэйзажу. З Табольска езьдзіў у Іркуцк, Томск, Янісейск.

"Вялікія здольнасьці, вясёлы нораў мастака, – піша Леанід Дробаў, – прыцягнулі да яго ўвагу тагачаснага губэрнатара Сібіры графа Сперанскага. Гэтае заступніцтва, гэтае ненавязьлівае апякунства скрасіла жыцьцё Дамеля, дапамагло яму вярнуцца на радзіму.

*(Працяг у наступным нумары)*

## МАЛІЛІСЯ ЗА ЗАГІНУЎШЫХ АСТРАНАЎТАЎ

2-га лютага сёлета, у Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, прат. а. А. Яноўскі адслужыў паніхіду за сямёх астранаўтаў, што загінулі ў космасавым караблі сёлета 28-га студзеня. Пасьля паніхіды а. Аляксандар сказаў моцнае казаньне, падкрэсьліўшы, што й беларускія гэроі гінулі на розных франтох, змагаючыся за лепшую будучыню для свайго народу. Пасьля паніхіды прысутныя сабраліся на залі, каб падзяліцца сваімі думкамі пра такую вялікую страту – экспартаў астранаўтаў. Выступалі: П. Кажура, старшыня БАЗА ў Нью Джэрзі і С. Гутырчык – камандзер Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў.

*С. Пчала*

## ПАДЗЯКА

Гэтым выказваецца шчырая падзяка ўсім тым, што бралі чынны ўдзел у арганізацыйнай і гаспадарчай частцы сьвята 65-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, менавіта: а. прат. А. Яноўскаму за малітвы, лейт. А. Міцкевічу за рассылку запросінаў, маёру Міхасю Тулейку за рэфэрат, Паўліне Міранsocіч за пашыцьцё малых беларускіх сьцяжкоў для дэкарацыі магілаў, спадарыням Л. Гутырчык і Н. Сапезынскай за падрыхтаваньне банкету, Ноне Азарка за ўшпільваньне беларускіх нагрудных кукардаў і Але Дубяга за помач на залі.

*Управа ЗБАВ у Амэрыцы
Усходняга Берагу*

## АЛЯКСАНДАР КАЛОДКА
## ( 1911 – 1985 )

15-га лістапада 1985 г., у Мэльбурне, Аўстраліі, адыйшоў на вечны супачын вялікі патрыёт і змагар за волю Беларусі, супрацоўнік "Зважай" Аляксандар Калодка.

Нарадзіўся ён 14.12.1911 г. у вёсцы Церабостын, Стаўпецкага павету, у Наваградчыне, дзе бацькі Андрэй і Юстына мелі невялікую гаспадарку. Абое былі няпісьменныя. Бацька памёр у 1921 годзе ад ранаў, якія здабыў у 1920 годзе як хурман у польска-бальшавіцкай вайне.

Пачатковую асьвету Калодка атрымаў у роднай вёсцы, а гарадзкое вучылішча ў Ярэмічах скончыў у 1926 годзе й адразу выехаў у Вільню. Адзін год вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі, пасьля працаваў у газэтах "Беларускі Дзень" і "Сялянская Ніва". У 1928 годзе здаў іспыты ў польскую дзяржаўную гімназію А. Міцкевіча ў Вільні, якую і скончыў у 1932 г. У тым-жа годзе яго паклікалі ў Цантральную Школу Пехаты (афіцэраў рэзэрвы), якую скончыў у 1933 г., атрымаўшы рангу зьвязовага-падхаронжага. У 1934 г. паступіў на юрыдычны факультэт унівэрсытэту Сьцяпана Баторага ў Вільні. Пасьля атрыманьня даплёму магістра права ў 1938 г., працаваў у юрыдычным адзьдзеле Грамадзкага Забясьпечаньня. У 1940-41 гадох працаваў настаўнікам III-й сярэдняй летувіскай школы ў Вільні.

Ад верасьня 1941 г. працуе як Надзвычайны Ўпаўнаважаны Гэбітскамісара ў Вялейцы з галоўным заданьнем правесьці беларусізацыю ў агульнай адміністрацыі паліцыі. Калодку паважалі Беларусы Вялейшчыны, да яго зьвярталіся, каб памог у розных справах і называлі "нашым чалавекам". Гэта было ці не найбольшай узнагародай для Калодкі – выдтнага й нястомнага патрыёта. Ён войстра пратэставаў у СД (Гэстапо) супраць зьдзекаў і расстрэлаў Немцамі нявінных Беларусаў. З гэтай прычыны, на дамаганьні Касяка й Саўчыца, у сакавіку 1943 г. Калодку арыштоўвае Вялейскае Гэстапо. Трымалі яго ў мясцовай вязьніцы, пасьля ў Менску (канцлягер пры вуліцы Шырокай), а ад чырвеня 1943 г. у канцлягерах Аўшвіц, Біркэнаў, Бухэнвальд, Нордгайзэн-Дора, Ротлебэ Родэ, Равэнсбрук.

Пасьля вайны Калодка актыўна працуе ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, беларускай прэсе, арганізацыі бышых вязьняў нямецкіх канцлягераў. У 1948 г. ён выехаў у Аўстралію, дзе бярэ актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Ён ёсьць сябрам Рады БНР ад пачатку ейнага аднаўленьня.

Падчас навукі ў польскай гімназіі і ўнівэрсытэце, як выдатны вучань, Калодка меў розныя стыпэндыі, у іх ліку, на ўнівэрсытэце атрымаў стыпэндыю Міністэрства Асьветы й Веравызнаньняў. У вязьніцах і канцлягерах Калодка страціў здароўе, ад 1979 году жыве на інвалідзкай пэнсіі.

Удома Аляксандар Калодка пакінуў двух братоў і дзьве сястры. Сваяком гэтым шляхам выражаем наша сардэчнае спачуваньне.

*(Паводля даных з аўтабіяграфіі А. Калодкі).*



*Сьцяжная Варта Вэтэранаў на паніхідзе ў Тароньце*

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У ТАРОНЬЦЕ

Дзень Гэрояў сьвяткавалі летась у Тароньце 24-га лістапада. Пасьля Сьв. Літургіі ў Царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага, Першы Ярарх БАПЦ Архіяпіскап Мікалай адслужыў паніхіду за душы Гэрояў, што аддалі сваё жыцьцё за вызваленьне паняволенага беларускага народу.

Адсьпяваньнем "Сьпі пад курганам гэрояў" пачалася на залі акадэмія. Была прачытаная сымбалічная ліста гэрояў, што аддалі сваё жыцьцё за свабоду Беларусі. Даклад чытала старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Прысутныя далі ахвяры на помнік на магілу Алеся Гаруна ў Кракаве.

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У НЬЮ БРАНСВІКУ

У сыботу 30.11 летась, паміма дрэннай пагоды, вэтэраны злажылі вянок пры помніку Беларускім Гэроям у Іст Брансвіку, а магілы змагароў за вольнасьць Беларусі упрыгожылі нацыянальнымі сьцяжкамі.

На наступны дзень у Царкве ў Гайленд Парку а. прат. А. Яноўскі адслужыў Сьв. Літургію, а пасьля паніхіду за Слуцкіх Змагароў і за Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка.

Урачыстую акадэмію пасьля паўдня, салютам да сьцягу, адчыніў маёр Гутырчык. Прасьпявалі "Беларусь – наша Маці Краіна". Праклямацыю губэрнатара штату Нью Джэрзі *(гл. на бач. 8-й)*, прачытаў інж. Юрка Азарка і прысутныя мінутай маўчаньня ўшанавалі памяць загінуўшых Гэрояў.

У сваім рэфэраце маёр Міхась Тулейка пачаў ад Вял. Кн. Вітаўта а скончыў на гэраічным Слуцкім чыне. Падчас банкету старшыня БАЗА А. Шукелойць гутарыў пра прэз. М. Абрамчыка, ад сьмерці якога мінула 15 гадоў.



У Царкве Жыровіцкай Божай Маці падчас Паніхіды за Паўшых у Змаганьні за вольнасьць Беларусі Гэрояў



*Вэтэраны на залі пасьля атрыманьня афіцэрскіх рангаў: Зьлева направа : Лейт. Я. Азарка, маёр М. Тулейка, лейт. В. Дубяга, лейт. В. Няпейн, лейт. Адольф Субота. На здымцы няпрысутны Ал. Койка, што атрымаў ранг лейтананта.* Здымкі Алега Дубягі.

Згодна пастановы 11-й сэсіі Рады БНР, некаторыя былыя вайскоўцы атрымалі афіцэрскія рангі. Дыплёмы падпісаў Старшыня Рады БНР ген. др. Я. Сажыч, а цырымонію ўручэньня рангаў, згодна вайсковых правілаў, правёў маёр Гутырчык.

Палк. Русак прачытаў надасланыя прывітаньні ад Старшыні Рады БНР і ад Начальніка Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча. Вусна віталі: а. прат. А. Яноўскі, старшыня БАЗА А. Шукелойць і ад аддзьдзелу БАЗА ў Нью Джэрзі – П. Кажура. Наапошку адсьпявалі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

*Сяргей Пчала*



STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

# Proclamation

WHEREAS, Byelorussians around the world are commemorating the 65th Anniversary of the heroic Uprising of Slucak; and

WHEREAS, this year also marks the 38th Anniversary of the founding of the Association of Byelorussian-American Veterans in America; and

WHEREAS, the people of Byelorussia continue their struggle for freedom and independence from Communist Russia; and

WHEREAS, American veterans and the veterans of the Slucak Division are bonded by the principles that have made America the great Nation it is and the principles that give strength to the Byelorussian people today;

NOW, THEREFORE, I, THOMAS H. KEAN, Governor of the State of New Jersey, do hereby proclaim

NOVEMBER 27, 1985

as

BYELORUSSIAN-AMERICAN VETERANS DAY

in New Jersey.



GIVEN, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this twenty-first day of October in the year of Our Lord one thousand nine hundred and eighty-five and of the Independence of the United States, the two hundred and tenth.

Th H Kean
GOVERNOR

BY THE GOVERNOR:
Jane Burgio
JANE BURGIO SECRETARY OF STATE

Праклямацыя губэрнатара штату Нью Джэрзі, Томаса Кіна, згодна якой дзень 27-га лістапада, 1985 году абвяшчаецца

*Днём Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у штаце Нью Джэрзі*

## АДЫЙШЛІ НА ВЕЧНЫ СУПАЧЫН І ПАХАВАНЫЯ НА БЕЛАРУСКІМ МОГІЛЬНІКУ Ў ІСТ БРАНСВІКУ

АЛЯКСЕЙ ГРУША – Афіцэр Беларускай Краёвай Абароны, нар. 23-га студзеня 1909 г., памёр 23-га лістапада, 1985 году.

АЛЯКСАНДАР КОРБУТ – вэтэран ЗБАВ. Трагічна загінуў 8-га сьнежня, 1985 г., пражыўшы 62 гады.

ВОЛЬГА СІЛЬВАНОВІЧ – шчырая Беларуска. Памерла 1-га студзеня, 1986 г., пражыўшы 78 гадоў.

***Няхай Ім будзе мяккім пухам вольная зямля Вашынгтона!***

## ЯНЫ АДПАЧЫВАЛІ

Два нашым чытачом ведамыя пісьменьнікі – Кастусь Акула і Аляксандар Гідоні, – сёлета ад першага да восьмага лютага адпачывалі ў Санто Домінго, сталіцы Дамініканскай Рэспублікі. Пагалоскі, быццам яны памагалі паняволеным Гаіцянам скінуць свайго ненавіснага дыктатара Бэбі Док Дувалье ў суседнім Гаіты, не адпавядаюць праўдзе.

***************

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 21-га кастрычніка летась да 20-га лютага сёлета атрымана на "Зважай" падпіскі й ахвяры:

А.М. – 5.00 дал., Аўген Кажан – 10.00, Віталі Кажан – 10.00, А. Маркевіч – 5.00, др. М. Шчорс – 26.00, др. Л. Трусэвіч – 34.50, Ч. Найдзюк – 6.60, М. Скабей – 10.00, Я. Гавеньчык (з продажы) – 18.00, П. Г. – 33.25, М. Сазановіч – 15.00, Н. Жызьнеўскі – 6.60, Аляксандра Протас – 20.00, Знаёмы (з продажы і ахвяра) – 33.47, М. Скабей – 4.75, Кулага – 4.75, М. Нікан – 4.75, А. Стрэчынь (на лісту) – 80.99, Ул. Цьвірка – 25.00, М. Раецкі (з продажы і ахвяра) – 18.00. С. Гутырчык – (з продажы й ахвяры) – 99.90.

***Разам – 471 дал. 56 ц. Усім шчодрым чытачом вялікае дзякуй!***

### *ЛІСТА АХВЯРАЎ НА ПОМНІК НА МАГІЛУ АЛЕСЯ ГАРУНА*

У амэрыканскіх далярах.

З Кліўленду:

Янка Ханенка – 30.00, В. Валюкевіч – 10.00, В. Я – к – 10.00, В. Лукашэвіч – 10.00, А. Стрэчань – 10.00, С. Апацкі – 5.00, М. Ш – к – 5.00, С. Карніловіч – 5.00, Я. Раковіч – 15.00, А. Яр-ч – 10.00, А. К–ч – 5.00, А. Са–ч – 5.00, В. Яцэвіч – 10.00, К. Калоша – 20.00, К. Ягоўдзік – 10.00, А-ц Міхась – 20.00, Я. К–а – 10.00, І. К–с 10.00, А. Пр–ч – 5.00

*Разам – 205.00 даляраў*

Зь Нью Брансвіку:

С. Гутырчык – 10.00 дал., Ал. Койка – 10.00, Ул. Машонскі – 10.00, Ал. Напеін – 10.00, Б. Даніловіч – 10.00, Янка Азарка – 10.00

*Разам – 60.00 даляраў.*

*У канадыйскіх далярах,* сабарана на лісту ў Тароньце: А.М. – 10.00 дал., Я. Б–н – 5.00, А. Харавец – 2.00, Ж. Харэвіч – 5.00, Н. Сільвановіч – 5.00, А. Маркевіч – 5.00, І. Курыкшук – 5.00, Лішчонак – 2.00, М. Ганько – 5.00, Б. Кірка – 5.00, В. Касьцюкевіч – 5.00, В. Харэвіч – 1.00, В. Навіцкі – 5.00, Уладыка Мікалай – 10.00, А. Шаршуновіч – 10.00.

*Разам 80.00 даляраў.*

Прыслана ў "Зважай":

Юрка Акула – 2.00 дал., В. Кажан – 26.63, К. Мярляк – 34.50, М. Грэбень – 26.00, М. Раецкі – 18.00.

*Разам – 107.13 [illegible]зн. даляраў.*

***Усім за падтрымку вельмі дзякуем.***